Народная Воля

30 СТУДЗЕНЯ 2004 г.

# Круг

*(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)*

Уздыхнуў — і доўга, моршчачыся, глытаў мутнаватую вадкасць. За ім — Дубоўка.

Прыкусілі. Гаспадар зноў наліў, праўда, сабе ўжо меней. Прымусіў выпіць. А тады сеў і загаварыў гучней:

— Бог дае нам радасць, ён яе і забірае... І невядома яшчэ, дзе гэтай нашай радасці лепш — тут ці... — і доктар падняў палец угору, — ці там. — Устаў, засунуў дрыготкую руку ў кішэню халата. — Бяда ў цябе, міл-чалавек... — і выцягнуў канверт, паклаў на стол...

"Южлагер. Калона №4. Лазарэт. Галоўурачу... — пазнаваў Дубоўка жончын почырк. Нервова выцягнуў ліст, нахіліў да газоўкі: — Дарагія людзі... Я даведалася, што мой муж, Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч, цяпер знаходзіцца ў вашым лазарэце, — пісала жонка па-расейску, а рука паўзла ўніз — радкі былі крывыя і літары — таксама няроўныя... — Нашу сям'ю напаткала страшнае гора: трагічна загінуў адзіны сын Алік. Гуляў з сябрамі на ўзлеску... і падарваўся на міне. Я прашу паведаміць майму мужу гэтую гаротную вестку, калі ён паправіцца, але яшчэ будзе пад наглядам урача...".

І дата пад лістом...

Як жыць?
З чым?
З кім?
І навошта?!.

Гэта самае страшнае ў жыцці — страціць да яго ахвоту. Калі не хочацца жыцця, калі нават сіл, каб пайсці з яго — нестае. Нестае ахвоты, каб адкрыць вочы на новы дзень, не хапае волі, каб дзень той адлучыць ад ночы...

Адным, што звязвала яго з сённяшнім і, магчыма, заўтрашнім, заставалася жонка, — пакутніца Марыя. Пайсці з жыцця аднаму — здрадзіць найперш ёй...

Ён пачаў баяцца, што спалены мозг забудзе вобраз сына — і адзін за адным пісаў лісты з просьбай да жонкі выслаць яму Алікава фота. Адказу не было, і яму ўжо са страхам думалася, што застаўся і без Марыі...

...толькі праз дзве зімы да іх зноў пачалі даходзіць газеты, затым — лісты ад родзічаў. Сябры ж сюды не пісалі, сяброў, здавалася, ужо і не было. Чырвоная Армія ішла на Захад, а на Далёкім Усходзе працягвалася будаўніцтва чыгункі — крок за крокам, жыццё за жыццём.

## 11

Зрэзаны асколкамі твар новага начальніка лагера, яго чырвоныя бяссоныя вочы нічога добрага, здавалася, не прадвяшчалі — і тут:

— На вас прыйшлі паперы. Будзем рыхтаваць да вызвалення. Куды хацелі б мець накіраванне?

Дубоўка ўважлівей угледзеўся ў начальніка: блізу сарака гадоў — ранняя сівізна, славянскія рысы, пусты левы рукаў знізу падціснуты пад папругу; маёрскія пагоны.

— Дык куды накіроўваць?

— Назад, у Маскву...

— О! У Маскву! Ні ў Маскву, ні ў Маскоўскую вобласць, ні ў сталіцы рэспублік нельга.

Дубоўка хмыкнуў, пахітаў галавой і сказаў абуджана:

— А да сонца можна?

— Да сонца? — не зразумеў маёр.

— Так. Скажам, у Грузію. Хочацца косці разагрэць. Ды і сэрца, бывае, ледзяшом здаецца...

Маёр доўга перабіраў паперы, двойчы ўставаў да карты, а потым нечакана радасна здзівіў:

— Што ж, пашлю вас на курорт, пад самае мора. Раён Зугдзідзі, Мінгрэлія. Грэйце сваю бараду.

— Буду старацца... — Дубоўка торапка забраў ад маёра паперы, зноў хітнуў галавой і спытаў: — Маёр, на якім фронце вас так?

— Беларускім. Пад Віцебскам. Дакладней — пад Лепелем... Горад такі ёсць.

— Ведаю. Мая радзіма...

...

Праз паўмесяца Дубоўка ўладкаваўся бухгалтарам у чайны саўгас Наразені. А неўзабаве ў Зугдзідзі, раённы цэнтр Мінгрэліі, прыехала і жонка. Яе прызначылі настаўніцай матэматыкі ў суседнія з Наразені Хецэры. Паміж сёламі — вялікі яр, побач — прыгожая горная рэчка Інгуры, чайныя і вінаградныя палі, вечныя горы наўкол і пракаветнае сонца.

Пасля лагернага голаду, калі за ласунак быў і падкоркавы белы слой сасновых бярвёнаў, надзіва пахкі ванілінам, — вінаград з жыццядайным вінам; пасля рабскай працы на чыгунцы, асабліва ў апошнія два гады, калі лагернікі злучалі дарогу каля Чыты і адразу ж па ёй папаўзлі вайсковыя саставы да мяжы з Кітаем, дзе, як пагаворвалі, спела новая вайна, — спакойная праца з лічбамі, за сталом і ў спакоі; пасля забайкальскага холаду — грузінскае сонца, ад якога напачатку рабілася млосна і дрымотна.

...

## 12

Калі Марыя ўбачыла ў хаце разам з мужам дырэктара саўгаса Сёмкіна і чалавека ў вайсковай форме, — зніякавела і, разгублена пазіраючы на ўсіх па чарзе, прапанавала сесці.

— Прысядзем потым... Збірай мяне ў дарогу, — голас Дубоўкі размераны, спакойны.

А на яе найшло аняменне. Праз сілу паварушыла галавой, абурана зірнула на "вайскоўца" — начальніка райаддзела МДБ:

— У якую дарогу?.. За што ж цяпер?!.



*Дубоўка з жонкай у Почаце.*

Той скрывіў вусны, зняў і пакруціў у руках фуражку:

— Ёсць распараджэнне з Масквы... На ўсіх, хто быў у лагерах...

Агаломшаная, яна пачала збіраць рэчы, клала на стол, затым, забыўшыся, несла назад, і ўсе ўтрох мужчыны пачалі дапамагаць.

— Ну, хадзем правядзём, — шапнуў ёй Сёмкін.

Быў люты 1949-га. З ганку сполашна ўспырхнула стайка вераб'ёў, закружляла над падворкам — але так і не асмелілася зноў сесці.

Яны марудна прайшлі да саўгаснай сталоўкі, дзе стаяла, адбліскваючы чорным лакіраваным бокам, машына.

— Вось бачыце, я прыехаў без варты, асабіста, — звярнуўся "дзяржбяспечнык" да Марыі. — Я ведаю, які гэта чалавек...

Каля машыны іх чакала з паўсяла: і саўгаснікі, і дзеці, і старыя. Жанкі плачуць. Некалькі хрыплых галасоў з натоўпу:

— Чаго гэта яго? Не пусцім... Гэта харошы чалавек!

Прадчуваючы нядобрае, з машыны выйшаў шафёр. Ягоны начальнік кашлянуў, сказаў гучна, як скамандаваў:

— Ну-ну, не мітынгуйце, — і на ўсялякі выпадак расшпіліў кабуру.

Аднак ад машыны ніхто не адышоў. Неспакойную паўзу перарваў "галоўбух" Мамкелі:

— Што ж... Дык давайце хоць правядзём нашага сябра пачалавечы. Хадзем у сталоўку!

У сталоўцы ледзь хапіла ўсім месца. Умірг з'явіліся віно і закуска. У "галаве" стала — незвычайная тройка: арыштант, яго жонка і начаддзела МДБ. Мамкелі ўпершыню ў жыцці адмовіўся тамадзіць. Тосты прамаўлялі па чарзе: дырэктар саўгаса, праформ, парторг, бухгалтары, настаўнікі, работнікі... Усе словы ўхвальныя, удзячныя.

Начаддзела спачатку слухаў уважліва, затым пачаў ківаць — у знак згоды — галавой, а калі трэба было збірацца, — устаў і, моцна хістаючыся ад выпітага, ледзь змог вымавіць:

— А цяпер... ваша слова... у адказ.

Дубоўка падзякаваў за добрыя словы, пажадаў усім здароўя, росквіту — саўгасу.

— Дасць Бог, сустрэнемся, — падагульніў цішэй і сабраўся выходзіць, як заўважыў, што начаддзела... спіць, склаўшы на стале рукі. Каля яго замітусіліся мужчыны, спрабавалі раскатурхаць, аднак той толькі цмокаў языком і асалавела хітаў галавой.

— Пачакайце, — перапыніў усіх Дубоўка. — Мы ж павінны разам... — і, прыўзняўшы з лавы цыбатае цела начаддзела, ускінуў яго на плячо і панёс да машыны. Затым абняў жонку, якая неўразумела глядзела на ўсё вакол, "Мы хутка ўбачымся", прашаптаў — і сам схаваўся ў машыне. Яна неяк стомна завуркатала, крэкнула — і пачала паволі аддаляцца...

А Марыю яшчэ доўга не адпускалі дадому, суцяшалі, бедавалі.

— Няўжо зноў у Сібір? Там жа такое пекла! — вохкала жонка Мамкелі.

— А ты калі паедзеш да яго? — спытаў дырэктар школы. — Спачатку ён будзе ў Зугдзідзі.

— Як жа ехаць? Урокі ж...

А той ажно абурыўся:

— Што такое: тут урокі? Там жа — чалавек!

— Ты, дарагая, кажы смела, што трэба: усім дапаможам! — запэўніў Марыю Мамкелі.

— Канешне дапаможам... А як жа інакш... — адзываліся галасы, многія — незнаёмыя ёй.

Назаўтра яна паехала ў Зугдзідзі, але мужа не заспела: зраніцы яго адправілі ў Тбілісі. У дзяжурцы Марыі сустрэўся начаддзела, прыязна ўсміхнуўся, правёў да выхаду.

— Ён не ў камеры начаваў, а ў асобным пакоі... — сказаў на развітанне. — На жаль, больш я нічога зрабіць для яго не мог.

Да Тбілісі Дубоўку суправаджалі два канваіры. Перад тым як накіравацца да турмы, зайшлі ў чыгуначную рэстарацыю. Замовілі рознага і пра каньяк не забылі.

Праз паўгадзіны адзін з канваіраў — старэйшы па ўзросце — паклікаў афіцыянта, каб разлічыцца. Той прынёс рахунак — і спытаў па-грузінску:

— Хто гэта з вамі?

— Паэт з Беларусі. Яго ўжо чацвёрты раз забіраюць...

— Во як? — прыцмокнуў афіцыянт, скруціў рахунак і піхнуў у кішэню: — Хай адсохне ў мяне рука, калі я цяпер вазьму грошы з гэтага чалавека.

Пакланіўшыся, ён прыхільна зірнуў на Дубоўку — і пачуў ад яго таксама па-грузінску:

— Дабра табе, сонечны сябар.

Адзін з канваіраў пачаў збірацца, і старэйшы хмура асадзіў яго:

— Куды ты спяшаешся? Куды, я цябе пытаю?..

Калі Марыя зазбіралася ў Тбілісі, дырэктар школы суцішваў:

— Не хвалюйся, заменім твае ўрокі. Ты толькі ад нас прывітанне мужу перадавай...

У Тбілісі — пад чатырыста кіламетраў у адзін бок — яна ездзіла чатыры разы. І чатыры разы ёй шчасціла з сустрэчамі. Апошні раз яе выклікалі "афіцыйна" — перад адпраўкай мужа на вечнае (апяклі яе гэтыя словы турэмнага дзяжурнага) пасяленне...

## 13

Эшалон спыніўся ў Канску. Кароткае краснаярскае лета было ў зеніце, у вагонах — духмень, а ад салёнага правіянту люта даймала смага.

Ссыльных вывелі з вагонаў. На прывакзальным пляцы, адгароджаным з аднаго боку — драўляным плотам, з другога — жалезнымі рэйкамі (а па перыметры — канваірамі), усе чакалі "рассартавання".

Прасілі вады, але ўсе, хто ішоў паўз плот, нібыта не чулі тых просьбаў.

...

Дубоўку накіравалі ў суседні Абанскі раён, амаль на сто кіламетраў паўночней. Там, у сяле Усцьянск, было свабодным месца выкладчыцы нямецкай мовы, і, думаючы пра жонку, ссыльны напрасіўся туды.

За тыдзень яны больш-менш абсталяваліся на новым месцы, і Дубоўку зноў паклікалі ў брыгаду — нарыхтоўваць дровы для дзіцячага дома. Бярвёны канём сцягвалі на лясную паляну, затым пілавалі. Калоць даводзілася Дубоўку — як найбольш дужаму і сталаму з усёй брыгады (у якую сабралі школьнікаў-падшыванцаў і зусім нядошлых старых).

Перад абедам, калі ўсе сабраліся каля вогнішча, яму заманулася схадзіць да крыніцы — з паўкіламетра ад паляны, бліжэй да дарогі. Лес там быў стары, пагудасты, дарога, здавалася, ледзь праціскалася скрозь тоўстыя яліны.

І тут нечакана зусім побач — крык. Дзявочы крык:

— Ратуйце! — і праз сполашны стогн: — Пусьці мяне, пусьці! Не чапай...

Дубоўка адхінуў яловую лапу — і вачам не паверыў: азызлая спіна брыгадзіра, пад ім, нібыта тонучы ў імху — дзяўчына. Гнеўны алтайскі твар яе — зморшчаны... Стукаціць кулачкамі па брыгадзірскім жываце, пішчыць, а гвалтаўнік, пасопваючы, ужо заломвае яе рукі...

Нічога не гаворачы, Дубоўка паднімае брыгадзіра і адкідвае да яліны. Умірг ускоквае і з крыкам знікае ў лесе дзяўчына (і адкуль сюды патрапіла?).

Агоўтаўся брыгадзір:

— Ты яшчэ ўспомніш пра гэта... — злосна аддыхваецца і сплёўвае пад ногі. З носа цячэ кроў — напамін ад дзявочых кулачкоў. — Яшчэ пашкадуеш!

— Я, смаркач сабачы, ужо дваццаць гадоў успамінаю, — уздыхнуў у адказ Дубоўка. — І не такіх сцыкуноў, як ты!

А праз дзень яго выклікалі ў аддзел МДБ. Налыса стрыжаны капітан перагартаў ягоную справу і прасіпеў:

— Што ж гэта вы, грамадзянін Дубоўка, рукапрыкладствам займаецеся? Ды яшчэ пры гэтым на Савецкую ўладу нагаворваеце? Як там?.. — і зазірнуў у паперы: — Дваццаць гадоў яна ў вас адабрала? Не разумееце аніяк нашай навукі. — Памаўчаў, пашкроб патыліцу — і вынес прысуд: — Збірай свае манаткі і ...іздуй у Почэт, каб пра цябе тут не чулі.

...Яшчэ сто кіламетраў на поўнач, у тайгу. Па глыбокіх калдобінах, ажно машына церла карданам зямлю, ледзь-ледзь дахалі да Байкана. Далей сунуцца шафёр адмовіўся.

Тры дні прасядзелі на клунках, пакуль не выручыў калгаснік: прыехаў з Почэту па авёс. Аўса не раздабыў, але спадарожнікаў забраў. Рэчы пагрузілі на падводу, а самі пайшлі за канём — доўгіх трыццаць пяць кіламетраў тайгой.

Чым далей — тым больш даймаў гнюс. Усё ў перамешку: камар, машкара, макрэц... Не прысесці, не спыніцца. Бачачы пакуты Марыі, калгаснік даў ёй сваю сетку. І ёй ажно дыхаць стала лягчэй.

На паўдарозе конь спудзіўся, падвода наскочыла на патырчаку і перавярнулася.

Што рабіць? Разбіраць увязаныя клункі, а затым — зноў укладваць?

І Дубоўка матнуў рукой, падлез пад воз і перавярнуў яго назад. Толькі натужна крэкнуў...

Рушылі далей. І праз тры гадзіны ўсё змянілася: тайга адступіла, дарога памякчэла, а спераду блiснула Біруса. Яе дальні бераг быў высокім, стромістым. Як зялёны брыль на ім — густыя сосны.

## 14

Сваю хаціну ён праектаваў вокнамі да рэчкі — на прасторны разлог, дзе злучаліся дзве таёжныя рэчкі Тара і Чайгашэт — і ўліваліся ў большую — Бірусу. Калісьці ўсю тую мясцовасць займала тайга, аднак з ростам паселішча яна адступала, толькі сям-там заставаліся вылежныя пні.

З жытлом у Почаце была цэлая бяда: людзей прыязджала шмат, і прытулку ўсім не хапала. Напачатку ён жыў у склепе, куды згрувасцілі прывезеныя рэчы. Жонка прытулілася ў каляжанкі, школьнага завуча.

Усю восень ён пілаваў бярвёны, узводзіў зруб. Зімой, калі выпадала вольная хвіліна, на санях падвозіў да будучага жытла — напрамкі, па заснежанай і мёрзлай рэчцы — астатнія матэрыялы: дошкі на дах і падлогу, бэлькі, кроквы, рубіроід.

Адрывала і даймала работа на службе. Ісці на лесапавал не ставала здароўя: пачала балець абмарожаная ў лагеры нага. Вось і вырашыў — па жончынай парадзе — уладкавацца ў лягчэйшае, у сталярку. Купілі інструмент, і ён пачаў вучыцца новай справе. Пачынала нават падабацца — рабіць ваконныя рамы, дзверы. Работа з дрэвам адцягвала ад змрочнага, нават супакойвала.

Пакуль толькі мог рыхтаваць загатоўкі. Даводзіць да ладу іх не атрымлівалася. А той, хто ўмеў, не спяшаўся паказаць: вушлыя сталяры адварочваліся і хавалі за спінай свае вырабы...

Але ён не гневаўся: прыкусваў язык і крахцеў далей.

...

Зноў сонца ўстала за старой тайгой. Слізганула па пярэстых хвалях сопак — і адарвалася ад небакраю.

У такі час ён прачынаўся. Распальваў печ, каб сагрэць выстуджаную на ноч хату. Яна стаяла на ўзвышку, даступна прадзімалася вятрамі, ад чаго не дападаў да панадворка гнюс і ад чаго, асабліва восенню і зімой, было халадней.

Затым ішоў да рэчкі па ваду. Сціўшаўся, глядзячы на няўтомную плынь, і чакаў, пакуль ранішняе сонца не ўсміхнецца ў яе лускавінні. Вада віравала, на павароце кідалася на бераг — супакойвалася і бегла далей.

І ў тым няспынным бегу яму чулася такое:

*Рака Біруса, а яна ж і Ана -*
*дзве назвы для рэчак, а рэчка адна!*

*Над берагам скалы — адна на аднэй,*
*адна за адну прыгажэй і вышэй.*

*І вежы ўзняліся да неба, да хмар,*
*на іх павырэзваў акрасы разбяр...*

...

Будаўніцтва хаты забрала ўсе грашовыя запасы, давялося ўлезці ў даўгі. А таму ён вымушаны быў напрыканцы лістапада запісацца і на тралёўку. З раніцы ссоўваў з сопак цяжкае бярвенне і канём на невялікіх санях вывозіў-сцягваў іх да тартака. Пасля абеду працаваў у сталярцы.

Вытрымаў так да новага года. Пачала нямець і апухаць скалечаная нага, і ў тайгу ён перастаў ездзіць. Стараўся на больш застацца ў майстэрні. А тут — новая прыгода: зляцеў дыск пілы-цыркуляркі і садраў пазногаць з вялікага правага пальца ды ўсю фалангу.

Хірург хацела зусім адняць палец, але ён запратэставаў:

— Што вы! Без пальца я не жылец. Гэта як праклятце нейкае... Бацька сабе правыя пальцы адрэзаў, дык некалькі гадоў пісаць левай вучыўся. І дзед адсек...

Выручыла сястра-медычка, дужая, у самой рукі — як не ў кожнага мужчыны: сцягнула рэшткі ацалелага мяса вакол агаленай косткі, а хірург хуценька прыхапіла іх іголкай.

Хоць і замарозка ўзялася, але ад болю Дубоўка ледзь не самлеў, ажно чырвоныя кругі ўвачу замітусіліся. "Старэю...", — падумалася. Агоўтаўся, калі медсястра выпісвала бюлетэнь. Паклала зеленаватую паперчыну яму ў кішэнь і зухавата ўсміхнулася:

— Праз тыдзень — на перавязку.

Палец не загойваўся, пачаў гнаіцца, і да медычак давялося ісці раней тэрміну. Хірурга не было, а медсястра нібыта і не пачула яго — энергічна кіўнула на газету, што закрывала ўвесь яе стол, "Вы яшчэ, мабыць, не ведаеце...", — прашаптала загадкава, няўпэўнена.

На паўстаронкі — да болю знаёмы партрэт у чорнай рамцы, і спачуванні, спачуванні...

...Па дарозе дамоў ён зайшоў у прадмаг — даў круга ў лішніх пяць кіламетраў — і купіў пляшку гарэлкі.

Імпэтна, здзівіўшы жонку, выставіў бутэльку на стол. Зірнуў нейкімі іншымі, абуджана-памаладзелымі вачыма, урачыста сказаў:

— Нясі чаркі і закусь!

— А што гэта за свята сёння? — не зразумела яго жонка.

— Свята. Павер, самае сапраўднае свята! Скапыціўся наш вялікі і дарагі...

— Хто?!

— Сталін...

...

*(Заканчэнне будзе.)*

---

**ЛЮБОПЫТНО**

## У кого сильнее пальцы?

*Более 60 тренажеров для кистей рук разработал оршанский рационализатор и изобретатель Михаил Солтанович.*

Они были представлены на персональной выставке изобретателя в Минске.

Все устройства компактны и рассчитаны на тренировку целого комплекса мышц.

Особым спросом тренажеры Солтановича пользуются у участников соревнований по дигатлону — состязанию на пальцах. По этому виду спорта в Орше уже восемь лет подряд проводятся чемпионаты города. А в Барань на состязания на Кубок города приезжают спортсмены со всей Беларуси.

Михаил Солтанович уверен, что его тренажеры могут применяться и в лечебной гимнастике, а также для реабилитации инвалидов.

## Субсидии на пышные усы

*В индийской провинции Мадхья-Прадеш, на севере страны, полицейским платят надбавку к зарплате за то, что те отпускают пышные усы. Первым десяти полицейским уже платят ежемесячно на 30 рупий больше (66 центов США) в качестве вознаграждения за их усилия по работе над своей внешностью.*

Столь оригинальная идея пришла начальнику местной полиции Майанку Джейну, который считает, что усы придают мужчинам больше важности и, соответственно, внушают уважение окружающим.

"Усы производят положительный эффект на местное население", — говорит Джейн. По словам Джейна, впервые он задумался об этом во время семинара, в котором участвовали сотрудники полиции и жители города. Джейн заметил, что взгляды, обращенные на усатых охранников порядка, были куда более уважительными, чем на гладко выбритых.

## Питон-гигант

Питон, живущий в провинциальном индонезийском зоопарке, весит 447 кг. Для 15-метрового рекордсмена поставили специальную скамейку, чтобы он мог полежать. Пищеварительная система питона вполне справилась бы и с человеком, смотрители кормят его собаками. По словам смотрителя Имама Даманто, каждый месяц питон съедает пять собак.

---

**30 студзеня**

**ПЯТНІЦА**
Усх. 8.02 Зах 16.46
Даўж. дня 8.44
Першая квадра
29 студзеня

Сёлета спаўняецца **80 гадоў** з часу заснавання (1924) Бабруйскага краязнаўчага музея

---

**СПОРТ**

## Пошел на повышение

*32-летний белорусский защитник Сергей Яскович подписал контракт сроком на 1 год с клубом российской премьер-лиги "Торпедо-Металлург" (Москва).*

Напомним, что в минувшем сезоне Яскович выступал в первой лиге России за клуб "Томь" из Томска.

Теперь 30 января Сергей со своей новой командой отправится на сборы в Испанию.

## Кличко подали в суд на своего промоутера

*Братья Кличко подали в суд, дабы расторгнуть контракт со своим промоутером Клаусом-Петером Колем, сообщает AP. Виталий и Владимир Кличко обратились в суд Гамбурга, требуя разорвать контракт с Колем и компанией Universum Promotions уже в этом году. Universum Promotions никак пока не прокомментировала эти сообщения.*

Виталий Кличко в прошлом году провел бой против Леннокса Льюиса, который выиграл британец. Однако украинец требует второго боя, при этом сам Льюис от проведения боя всячески уклоняется.

Братья намерены подписать контракт с американским промоутером, который, возможно, сможет спланировать карьеру украинцев более успешно. С Колем Кличко работали в течение восьми лет. Кличко требуют от суда, чтобы тот аннулировал пункт договора с Колем, согласно которому контракт автоматически продлевается в случае травмы одного из боксеров. К примеру, Виталий Кличко получил травму и не мог драться в течение нескольких месяцев, на которые его контракт был продлен.

**Алесь СВЕТЛАНИЧ.**

---

# Крыжаванка



**Па гарызанталі:** 1.Мой родны ..., як ты мне мілы (Я.Колас). 3.Опіумная расліна. 8.Сельскагаспадарчая прылада. 12.Персанаж оперы "Запарожац за Дунаем" Гулак-Арцёмаўскага. 14.Негр. 17.Вынаходца саксафона. 18.Прылада для кляпання касы. 19.Памяшканне для захоўвання зерня, мукі. 20.Выдатны лётчык. 22.Пазасістэмная адзінка дозы іанізаванага выпраменьвання. 23.Невялікая цэркаўка без алтара. 24.Даўней: чалавек, якога пасылалі з тэрміновай весткай. 25.Прыток Волгі. 26.Клопат, неспакой, хвалянне. 28.Чарка. 31.Светапогляд. 32.Народны паэт-спявак у кіргізаў, казахаў. 34.Своеасаблівае нервовае раздражненне. 36.Птушка атрада вераб'іных. 38.Паларогая жывёла. 39.Прыемны пах. 40.Від пшаніцы. 42.Упрыгажэнне ў выглядзе пучка нітак на адзенні. 44.Вялікае памяшканне для жывёлы. 46.У мусульманскіх краінах: тытул манарха. 49.Успрыманне арганізмам гукавых ваганняў. 51.У савецкім праве адзін з відаў крымінальнага пакарання. 52.Спосаб ходу, бегу каня. 53.Лістападнае дрэва. 54.У старажытнаегіпецкай рэлігіі Бог сонца. 55.Той, хто займаецца ткацтвам. 56.Невялікая кадзь. 57.У сялянскім побыце пасудзіна з клёпак. 58.Зніжэнне ў вытворчасці тавараў. 62.Украінская гістарычная песня. 64.Адрэзаны кавалак хлеба, сала. 65.Паселішча на Каўказе. 67.Жалезныя вілы для накідвання і разбіўкі гною. 68.Жонка аднаго брата ў адносінах да жонкі другога брата. 69.Дзеяч Вялікай французскай рэвалюцыі. 70.Булачны выраб. 71.Адна з бакоў спрэчкі ў судовым працэсе.

**Па вертыкалі:** 1.Жаночая цёплая кофта без рукавоў. 2.Група цыганскіх сем'яў. 4.Даўней: лячэбніца пры воінскай часці. 5.Мяшок з грашыма; вялікі кашалёк. 6.Мэтазгодная дзейнасць чалавека. 7.Сталіца Марока. 8.Насценны свяцільнік. 9.Джаланоснае насякомае. 10.Шматгадовая расліна. 11.Саюз плямён у старажытных цюркскіх народаў. 13.Нуда, маркота, незадавальненне. 15.Цыганка. 16.Нізкарослая парода коней. 21.Невялікі складаны ножык. 22. ...Бейбутаў (фільм "Аршын мал алан"). 24.Нарвежскі кампазітар, піяніст, музычны дзеяч. 27.Другая літара грэчаскага алфавіта. 29.Гандаль з народным гуляннем. 30.Рычажок для падняцця клямкі ў дзвярах. 32.Закончаная частка п'есы. 33.Аб'яднанне, саюз. 34.Закрытая пасудзіна для кіпячэння вадкасцей. 35.Беларускі паэт (паэмы "Нарач", "Каліноўскі"). 37.Вялікая цяслярская сякера. 39.Тое,што і выспа. 41.Выкананая ў хуткім тэмпе частка мелодыі. 43.Сын сына або дачкі. 45.Левы прыток Бярэзіны. 47.Высокае стаячае люстра. 48.Вялікі ўчастак зямлі. 49.Выражэнне незадавальнення. 50.Подкуп службовай асобы. 51.Машына для апрацоўкі розных матэрыялаў. 54.Астатак, здача. 58.Частка дрэва. 59.Жанр фальклору розных народаў. 60.Тоўстая ёмкая палка. 61.Рака, якая працякае ў Стаўбцоўскім раёне Мінскай вобласці. 63.Суп з рыбы. 64.Асобная партыя ў некаторых гульнях. 66.Лічба.

**Падрыхтаваў Уладзімір ЭСМАНТОВІЧ.**

## Адказы на крыжаванку, надрукаваную ў № 11

**Па гарызанталі:** 2.Лавярэцкі. 7."Мара". 9."Зубр". 11.Зуб. 12.Пэн. 13.Зорка. 14.Гаўрук. 16.Лучына. 20.Праўда. 21.Пінск. 24.Карчан. 28.Апанаса. 30.Наталлі. 31.Лаўрэат. 32.Старыца. 33.Управа. 36.Багач. 38.Убарні. 43.Скарга. 44.Тканка. 47.Галубок. 49."Вір". 50.Іва. 51."Мова". 52.Наша. 53.Амсціслаў.

**Па вертыкалі:** 3."Азбука". 4.Рагозін. 5.Купала. 7.Морг. 8."Азярод". 9."Знічка". 10.Рана. 15.Аба. 17.Ноч. 18.Спрынджук. 19.Анастасія. 22.Іпатава. 23.Скарына. 25.Раіса. 26.Балаш. 27.Ганна. 29.Арына. 34.Рак. 35.Ворыва. 37.Гарун. 39.Блазан. 40.Рык. 41.Багрым. 42.Іткіна. 43.Сойм. 45.Ажба.

**Па дугах:** 1.Храбры. 6.Дубіна. 46.Косава. 48.Гжэгаж.

**Чайнворды:** 54.Пташук. 55.Краіна. 56.Красен. 57."Надлом". 58.Стафан. 59.Нечаеў. 60.Алаіза. 61.Антоні.

---



---

## Пятница, 30 января

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 23.00** Новости.
**07.05, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.35, 08.30** "Деловая жизнь".
**08.45, 14.45, 16.45, 23.35** "Моя страна".
**09.10** **"Русские амазонки".** Сериал.
**10.05, 17.05** Сериал **"Мисс Марпл".**
**11.05** **"Самозванцы-2".** Сериал.
**12.15** Драма **"Мой друг Иван Лапшин".**
**14.05** "На перекрестках Европы".
**15.10** Сериал **"Вспомнить все".**
**16.05** "5х5".
**18.05** "Мишель Йонаш в "Олимпии".
**19.15** Комедия **"Проклятие нефритового скорпиона".**
**21.00** Панорама.
**21.50** Специальный репортаж.
**22.00** Триллер **"Скрытая угроза".**
**23.50** Фантастический фильм **"Сканирование мозга".**

**ОНТ**

**08.00, 09.00, 18.00, 20.30, 22.40** Наши новости.
**08.05** "Доброе утро".
**09.05** **"Земля любви, земля надежды".** Сериал.
**09.50** Сериал **"Следующий". (NEXT-3)**
**10.45** "На линии огня".
**11.10** Сериал **"Твинисы".**
**14.55** "Город женщин".
**15.40** Сериал **"Берег мечты".**
**16.30** "Угадай мелодию".
**16.55** "Большая стирка".
**18.10** "Новый день".
**18.20** "Человек и закон".
**19.00** "Поле чудес".
**20.00** Время.
**21.00** Концертная программа.
**22.50** Фильм **"Истинная ценность".**

**РОССИЯ**

**07.45** Сериал **"Русские амазонки-2".**
**08.50** "Короткое замыкание".
**09.45** Вести. Дежурная часть.
**10.00, 19.00** Вести.
**10.30, 19.30** Местное время. Вести—Москва.
**10.50** Мусульмане.
**11.00** Вся Россия.
**11.15** Москва—Минск.
**11.30** Колоссальное хозяйство.
**11.50** Сериал **"Неотложка".**
**16.00** Вести.
**16.10** Смерть фигуристки.
**17.00** В поисках приключений.
**18.00** Комната смеха.
**19.50** Спокойной ночи, малыши!
**19.55** Фильм **"Почтальон".**
**23.15** Фильм **"Удачи вам, господа!".**

**ЛАД**

**06.30** Euronews.
**08.00, 14.00, 20.00** Новости.
**08.10** "Мгновение вечности".
**08.30** "Другие танцы".
**08.35** Сериал **"Проклятый уютный дом".**
**09.35** "Свет далекой звезды. Юрий Ступаков".
**10.05** "Между нами, женщинами".
**10.30, 21.15** Сериал **"Грешная Анхелика".**
**11.15, 12.55** "Обычный необычный день".
**11.50, 18.50** Сериал **"Крах инженера Гарина".**
**13.20** Мультфильмы.
**14.10** "Время кино".
**15.05** "Учительская".
**15.15** "Эх, анекдот, анекдот".
**15.30** Историко-биографический фильм **"Глинка".**
**17.25** "Москва—Минск".
**17.40** Сериал **"Возвращение Шерлока Холмса".**
**18.30** "Между нами, женщинами".
**20.15** "Колыбельная".
**20.30** "Дела семейные".
**22.05** Сериал **"Проклятый уютный дом".**

**НТВ**

**09.00, 11.00, 16.00, 18.00** Сегодня.
**09.25** "Их нравы".
**10.15** "Страна советов".
**14.35** "Принцип домино".
**16.30** Сериал **"Она написала убийство".**
**17.35** Протокол.
**18.35** "Свобода слова".
**19.55** Фильм **"Доктор Но".**
**22.20** Бокс. Владимир Кличко против Криса Берда.

**СТВ+RenTV**

**06.50** "Близнецы судьбы". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50** "СТВ-спорт".
**08.05, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**08.15, 20.15** "Минск и минчане".
**08.30, 23.05** "Технология".
**08.40** Драма **"Интимные услуги".**
**10.20** "Автопанорама".
**10.40** "Театральные истории".
**11.00** "Дикая планета".
**11.30** Док.фильм "На земле и в небесах. Павел Масленников".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Диалог со всем миром".
**13.50, 18.30** **"Клетка".** Сериал.
**14.45** **"ОБЖ, или Отдайте Бабушкин ПеЖо".** Сериал.
**15.15** "Рыцари света". Мультсериал.
**16.00** "Геракл у Адмета". Мультфильм.
**16.20** "Тема дня".
**16.50** Комедия **"Тайное свидание".**
**18.20** "Светская хроника".
**20.00** "СТВ-спорт".
**20.25** "Добрый вечер, малыш...".
**20.40** "Автопанорама".
**20.55** Комедия **"Конвоиры".**
**23.15** "Реактивный бокс".
**23.40** "Новости СНГ".
**23.55** Триллер **"Ножницы".**

**8-Й КАНАЛ**

**17.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**17.45** Худ.фильм **"Искусство войны".**
**19.25** К-видео "Топ-8".
**19.30** Сериал **"Богач, бедняк".**
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** Региональный репортаж.
**21.10** Худ.фильм **"Полуночный экспресс".**

**ТВ ЦЕНТР**

**07.45** Газетный дождь.
**07.55** **"Страсти по Саломее".** Сериал.
**08.45** **"Конференция маньяков".** Сериал.
**09.35** Европейские ворота России.
**09.45** Телемагазин.
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00, 23.15** События.
**10.15** Телеканал "Дата".
**11.15** Караоке стрит.
**11.30** Секретные материалы: расследование ТВЦ.
**12.10, 22.55** Петровка, 38.
**12.30** Деловая Москва.
**13.15** **"Инспектор Кестер".** Сериал.
**14.30** "Неприрученная Африка".
**15.00** Регионы: прямая речь.
**15.30** "Маленькие привидения". Мультсериал.
**15.35** Каля-маля.
**16.00** **"Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** "Приглашает Борис Ноткин".
**18.00** **"Разлученные".** Сериал.
**18.50** Пять минут деловой Москвы.
**18.55** **"За кулисами".** Сериал.
**21.35** "Народ хочет знать".
**22.25** Времечко.
**23.40** Комедия **"Пять тузов".**
**01.20** Мода non-stop.
**04.45** "Настроение".

**EUROSPORT**

**09.30** Санный спорт.
**10.30** Теннис.
**12.30** Журнал.
**13.00** Лыжное двоеборье.
**14.00** Ралли.
**15.00** Футбол.
**18.15** Теннис.
**20.00** Футбол.
**22.00** Фитнес.
**23.00** Сильнейшие.
**00.00** Экстремальные виды спорта.
**00.45** Теннис.

---

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



**Ліцэнзія на выдавецкую дзейнасць ЛВ №448 ад 15 мая 2000 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны ААТ "Красная звезда" з дыяпазітываў заказчыка, 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 28 240 экз. Заказ № 577.**